Грамадскае незалежнае выданне, выходзіць са студзеня 1997 года

# Газета для вас

17 чэрвеня 1998 года
СЕРАДА
№ 46 (126)
Наш індэкс 63834

Цана па падпісцы — 1000 руб.
Цана ў розніцу — 1500 руб.

ІВАЦЭВІЧЫ - БАРАНАВІЧЫ - БЯРОЗА

## НАВІНЫ: ЧАС МЯСЦОВЫ

БЯРОЗА

### Пажадаем храму доўгага жыцця...

У горадзе, нарэшце, завершана будаўніцтва касцёла Святой Тройцы, якое было распачата ў 1993 годзе. На службе па асвячэнню новага хрысціянскага храма прысутнічаў мітрапаліт Мінска-Магілёўскі, адміністратар апостальскай Пінскай дзіятэзіі кардынал Казімеж Свёнтак.

Трэба адзначыць, што ўзведзены касцёл з'яўляецца трэцім культавым будынкам у Бярозе. Лёс першых двух — няўдалы. Адзін будынак, старадаўні, прыйшоў у нягоднасць, другі — разбурылі ў 60-ыя гады і на гэтым месцы пабудавалі магазін "Ваенгандаль".

Новы касцёл Святой Тройцы (архітэктар Людміла Каспяровіч) узводзілі на сродкі спонсараў, у ліку якіх былі жыхары-католікі Бярозы, навакольных вёсак, прадпрыемствы горада, а таксама беларусы за мяжой, якія паходзяць з Бярозаўшчыны, але жывуць цяпер у Зялёна-Гурскім ваяводстве ў Польшчы. На ўрачыстасці па асвячэнню храма многія з іх (каля 100 чалавек) прыехалі з вялікімі пажаданнямі духоўнага адраджэння бярозаўцам. Думаецца, іх пажаданні здзейсняцца.

Шкада толькі, што храму Святой Тройцы не знайшлося месца ў цэнтры горада, — яго пабудавалі за будынкам аўтастанцыі, на пустэчы. Гэта зразумела. У 1993 годзе (пачатак узвядзення касцёла) усім камандавалі камуністы, якія, дарэчы, і цяпер, пераафарбаваўшыся пад дэмакратаў, стаяць ва ўладзе. Яны прадастаўлялі лепшыя месцы для будаўніцтва катэджаў начальнікаў рознага рангу. Напрыклад, у зоне заказніка Чырвоных Казармаў вырас катэдж начальніка РАУС, на тэрыторыі старой бальніцы знайшлося месца для дома дырэктара сыраробчага камбіната і т. д. Толькі вось будуюць гэтыя чыноўнікі дамы, а пра душы свае мала пры гэтым клапоцяцца.

## ● ФОТАЗНАЁМСТВА З СУЧАСНІКАМ



### Повар Ніна Шчыгельская

*Прафесію повара Ніна Рыгораўна Шчыгельская набыла яшчэ 17 гадоў таму, закончыўшы Баранавіцкае прафтэхвучылішча. Спярша працавала ў Жабінцы, а з 1985 года — у Івацэвічах. Яна — повар-брыгадзір рэстарана "Шчара". Добрасумленна адносіцца да сваіх абавязкаў. Яе вызначае прафесіяналізм, высокае майстэрства. Стравы, прыгатаваныя Нінай Рыгораўнай, — самыя смачныя і знешне прывабныя.*

*Н. Р. Шчыгельская — пастаянная ўдзельніца раённых конкурсаў-семінараў маладых повараў і афіцыянтаў, дзе заўсёды займае прызавыя месцы.*

*НА ЗДЫМКУ: повар Н. Р. Шчыгельская.*

*Фота А. ГАНЧУКА.*

ІВАЦЭВІЧЫ

### Лес залечвае раны

Сёлетняй вясной работнікі Целяханскага доследнага лясгаса актыўна займаліся лесааднаўленчымі работамі. На дзялянках, пашкоджаных мінулагоднім ураганам, з'явіліся саджанцы сасны і некаторых ліставых культур. Лес нанава пасаджан на 280 гектарах, ачышчаных ад буралому. Забалочаныя плошчы пакінуты пад натуральнае зарошчванне. Лесаводы не вялі суцэльную высечку на лесапавалах, большменш здаровыя дрэвы пакінулі і гэтым самым захаваны неблагі падлесак.

Зусім іншы малюнак у лясах, што належаць калгасам. У земляробаў рукі не даходзяць да паваленых насаджэнняў, драўніна ляжыць на дзялянках і гніе.

### Знаходлівасць вяскоўцаў

Арыгінальнае прымяненне пластыкавым бутэлькам знайшлі некаторыя жыхары вёскі Краглевічы. Верхняя частка пасудзіны адрэзваецца, а тая, што засталася, прымацоўваецца да плота ў гарызантальным становішчы. Вось вам і паштовая скрынка. У шырокую адтуліну, што атрымалася з аднаго боку, паштальён кладзе карэспандэнцыю. Танна і зручна.

БАРАНАВІЧЫ

### Замест ракет

На былой ваеннай базе "Лясная", дзе згодна з міжнароднай дамоўленасцю дэманціраваны ракеты, наладжан выраб пральнага парашку "Мільва-90". Баранавіцкае авіярамонтнае прадпрыемства тут зманціравала механізаваную лінію, на якой выпускаецца да 40 тон якаснага мыйнага сродку ў месяц. Уся прадукцыя не залежваецца на складзе, бо яе кошт значна ніжэйшы за аналагічную прадукцыю замежных фірм.

Новая вытворчасць — новыя рабочыя месцы для людзей, якія засталіся без працы пасля ліквідацыі ваеннай базы.

### Скокнуў з моста пад цягнік

Днямі на Баранавіцкім транспартным вузле адбылася трагедыя. З аўтадарожнага моста скокнуў пад праходзячы грузавы поезд і скончыў жыццё самагубствам адзін з работнікаў мостабудаўнічага ўпраўлення № 3, які працаваў у саставе брыгады на рамонце гэтага моста.

Што падштурхнула 27-гадовага мужчыну, які мае сям'ю, на такі крок, пакуль высвятляецца. У апошнія дні калегі на рабоце бачылі яго сумным. А ў той ракавы дзень ён нават адмовіўся разам абедаць.

## ☎ АЛЁ, РЭДАКЦЫЯ?

### Квартплата: перадаплата і пераразлік

*— "Газета для вас"? Растлумачце, калі ласка, што адбываецца. Атрымалі чарговы квіток на аплату за кватэру і камунальныя паслугі і здзівіліся: аказваецца мы маем па ім запазычанасць, хоць плацілі вызначаную суму грошай рэгулярна. Чытаем далей: запазычанасць гэта — за май! Акрамя таго, нам прапаноўваюць заплаціць за кватэру і камунальныя паслугі ўжо і за чэрвень. Як гэта разумець?*

*Акрамя таго, ужо некалькі дзён у нашым доме няма гарачай вады, не будзе яе па меншай меры цэлы месяц. А квіткі РВА ЖКГ прапануюць нам плаціць за гэту паслугу. Як можна браць грошы за тое, чым мы не карыстаемся?*

*В. САВІНА, г. Івацэвічы.*

ХХХ

Гэтыя пытанні мы пераадрасавалі работнікам Івацэвіцкага РВА ЖКГ. Бухгалтар Н. І. Ефімовіч запэўніла нас, што ні пра якую запазычанасць кватэранаймальнікаў размова не ідзе, таму ніякая пеня з іх брацца не будзе.

— Проста мы пераходзім на папярэднюю аплату за жыллё і камунальныя паслугі, — сказала яна. — Цяпер, у чэрвені, да 1 ліпеня, кватэранаймальнікі па–вінны разлічыцца за май і чэрвень. У чэрвені будзем браць плату за ліпень і г. д.

Што датычыць вады, то плата за яе будзе пераразлічвацца ў адпаведнасці з тым, колькі жыхары кватэр яе спажывуць...

Хм, яшчэ перадаплату за займаемую кватэру можна зразумець. Але як можна браць перадаплату за ваду, колькасць спажывання якой можа вагацца кожны месяц? Работнікам РВА ЖКГ трэба будзе пастаянна весці нейкія пераразлікі...

## ● СПОРТ

### Нічыя, 1:1

Футбалісты ААТ "Івацэвічдрэў", якія выступаюць у другой лізе чэмпіянату Беларусі, у мінулую суботу высвятлялі адносіны з камандай "Смаргонь". Дома, на стадыёне "Юнацтва", яны здабылі нічыю — 1:1. У івацэвіцкай камандзе гол забіў Сяргей Валах.

Нашы ігракі і балельшчыкі засталіся незадаволенымі прадузятасцю судзейства.



## ● ТАКОЕ ВОСЬ ЖЫЦЦЁ

### "Хітрае" падаражанне

Напэўна, не адзін са шматлікіх аўтааматараў Івацэвіч, Баранавіч ці Бярозы адкажа ляянкай на нядаўнюю пастанову Дзяржаўнага мытнага камітэта аб аплаце за "растаможку" аўтамабіля, якая з 5 чэрвеня павінна аплочвацца абавязкова ў СКВ. Раней за афармленне мытных дакументаў пры "растаможцы" аўтамабіля прыходзілася плаціць 11 мінімальных зарплат (2 мільёны 750 тысяч рублёў). З 5 чэрвеня пераразлік ідзе ў доларах, і цяпер замест указанай сумы ў "зайчыках" трэба заплаціць у валюце — 76 долараў.

Самае цікавае, што сума ў 76 долараў атрымалася згодна з афіцыйным курсам Нацбанка — 36.000 рублёў за долар.

Скажыце, паважаны чытач, дзе сёння сярэднестатыстычны беларус можа купіць хаця б адзін долар за 36.000?

Дзяржава аўтаматычна падштурхоўвае простага чалавека да валютчыкаў, якія сёння — адзіная інстанцыя, дзе можна свабодна купіць долары (хоць гэта і сабе дарэжэй ды і аўтаматычна становішся парушальнікам Закона). Але тым часам курс у валютчыкаў



— 58.000 рублёў. Калі гэту суму памножыць на 76 долараў, то атрымаецца ... 4 млн. 408 тысяч рублёў, на 1 млн. 658 тысяч "драўляных" больш за ранейшы кошт.

І гэта ўсё адбываецца пасля гучных заяў вышэйшых чыноў Беларусі, што плата за "растаможку" не павысіцца.

"Газета для вас" менш за ўсё імкнецца падобнымі інфармацыямі здзівіць ці абурыць свайго чытача.

Мы лічым, што ў сённяшняй эканамічнай і палітычнай сітуацыі можна ўжо нічому не здзіўляцца.

*А. ГОРБАЧ.*

### УДАКЛАДНЕННЕ

У № 44 за 10 чэрвеня г. г. у "Газеце для вас" была надрукавана інфармацыйная заметка "У чаканні начальніка", у якой дапушчана недакладнасць. Справа ў тым, што перавод былога начальніка Івацэвіцкага РАУС С. Д. Мастыкі на работу ў Баранавіцкі гарадскі аддзел унутраных спраў не звязаны з дарожна-транспартным здарэннем, якое адбылося на тэрыторыі Івацэвіцкага раёна і было ўчынена былым начальнікам ДАІ М. Д. Шрамуком.

Прыносім прабачэнні С. Д. Мастыку і М. Д. Шрамуку.

ЗНАК БЕДЫ

# ПУТЕШЕСТВИЕ В «СТОЛИЦУ» СПИДа

(Начало в №№ 41, 42, 43, 44, 45).



## Исповедь наркомана

Вике еще предстоит пройти свой страшный путь к пропасти, но мы встретились и с тем, кто уже, как бы это сказать, летит в нее...

— Я колюсь уже семь лет, — сиплым голосом начал наш новый знакомый Дима, светлогорский парень 25 лет.

Бегающие, полубезумные глаза. Редкие, торчащие волосы. Постоянно выступающий коричневый налет на губах. Дерганные, какие-то вывихнутые движения худого тела. Все свидетельствовало о том, что этот парень без иглы уже жить не может ни минуты. Рассуждать еще может.

— У нас здесь много "плюшевых" наркоманов — уколется раз в неделю и считает себя неизвестно кем. Но вам, ребята, садиться на иглу не советую. Кайф — он, конечно, кайф, но наркотики — это веревка, которой я намертво привязан. ВИЧ? Да, ВИЧ! Два года назад абнаружили. Был среди первых...

Нашу группу журналистов сильно заинтересовал вопрос: где наркоманы берут деньги?

— На день мне надо 300—400 тысяч. Где беру? Всего вам не скажу, но вы знаете, что большую часть преступлений в Светлогорске совершают наркоманы. Но об одном способе я вам все-таки поведаю. Находишь паренька из богатой семьи, предложишь уколоться — и за полгода он из дома вынесет все. Так можно неплохо поживиться. Но, вообще, этот вопрос — где достать денег на укол — меня заманал...

Он говорил напористо и зло, мало себя контролируя: жестикулировал перед нашими лицами, брызжа слюной. "Сейчас начнет просить денег", — шепнула одна из стоящих — журналистка "Вечернего Бреста". Она не ошиблась.

...Мы пошли на правонарушение: помогли Диме купить "дозу"; потом в гостиничном номере он кололся, жалуясь, что вены уходят вглубь тела, прячутся.

— Я уже кололся под язык, в шею. Теперь колюсь в пах, но и то проблема — как "поймать" на шприц вену.

Он пытался даже показать нам те места (включая и интимные), куда делаются уколы. На лице не промелькнуло ни тени даже легкого смущения от того, что зрителями его были не только мужчины, но и женщины, девушки.

Потом он ел, хрустел баранками, убеждал, что бояться его не стоит. Мы его и не боялись, но чувствовали полную опустошенность и брезгливость. Что сказать? Что пожелать? Перед нами был человек — замкнутый цикл, идущий неуклонно к концу...

**А. ГОРБАЧ.**

**(Окончание в следующем номере).**

ВАША ЗДАРОЎЕ

# Вострыя кішэчныя інфекцыі

*Вострыя кішэчныя інфекцыйныя захворванні выклікаюцца вялікай колькасцю розных мікробаў. Аднак агульным для іх з'яўляецца шлях заражэння — узбуджальнікі трапляюць у арганізм праз рот.*

*З усёй групы кішэчных інфекцыйных захворванняў найбольш распаўсюджаны дызентэрыя і сальманелёз.*

**Дызентэрыя** — вострае захворванне, якое выклікаецца асобнымі бактэрыямі. Яны паражаюць слізістую абалонку тоўстага кішэчніка і ствараюць агульную інтаксікацыю арганізма. Крыніца інфекцыі — чалавек (хворы ці бактэрыяносьбіт).

Заражэнне часцей за ўсё адбываецца праз забруджаныя ў ходзе прыгатавання ці транспарціроўкі харчовыя прадукты. Звычайна гэта гародніна, фрукты, малако, нядобраякасная пітная вада.

Першыя прыкметы хваробы паўляюцца праз 12 гадзін (часам праз 2—5 сутак): ірвота, галаўны боль, зніжэнне крывянога ціску, болі ў жываце, пачашчаны стул... Толькі неадкладны зварот да ўрача дапаможа вашаму здароўю.

**Сальманелёз** — гэта хвароба, агульная для жывёл і чалавека. Выклікаецца бактэрыямі сальманелы. Могуць праявіць сябе і праз шэсць гадзін, і праз трое сутак (часцей праз 12—24 гадзіны). Прыкметы хваробы: павышэнне тэмпературы да 40 градусаў, болі ў падлыжачнай вобласці жывата, млоснасць, ірвота, а праз некалькі гадзін — панос. Стул вадкі, смярдзючы (да 10—15 разоў у суткі). Пасля гэтага можа развіцца абязводжванне арганізма, што стварае пагрозу жыццю хворага. Таму нельга марудзіць і хутчэй звяртацца да ўрача.

Што ж тычыцца Івацэвіцкага раёна, то дызентэрыя і сальманелёз не абмінаюць нас. Летась было 52 выпадкі захворвання дызентэрыяй, сальманелёзам — 28. Сёлета за чатыры месяцы адпаведна 14 і 3 выпадкі захворванняў.

**Як уратавацца ад вострых кішэчных інфекцый?**

Трэба ўжываць у страву толькі добра правараныя, прасмажаныя і пададзеныя ў гарачым выглядзе стравы. Прадукты, што захоўваюцца пры хатняй тэмпературы, могуць стаць адной з прычын захворвання.

А вось сырыя прадукты нельга есці. Што ж тычыцца гароднiны і фруктаў, то яны перад ужываннем павінны быць альбо ачышчаны, альбо старанна абмыты. Сырыя фрукты з пашкоджанай лупінай лепш не ўжываць у ежу.

Сур'ёзную небяспеку можа таіць у сабе вада. Калі сумняваецеся, пракіпяціце яе. Гэта трэба зрабіць і з непастэрызаваным малаком.

Марожанае з невядомым прыгатаваннем таксама можа стаць прычынай вострага кішэчнага захворвання.

Такія напоі, як гарачая гарбата, кава, віно, піва, газіраваная вада, фруктовыя сокі ў бутэльках ці ў іншай герметычнай упакоўцы можна піць без рызыкі для здароўя.

Хачу заўважыць, што ў асобных гатунках рыбы і іншых дарах мора некаторых краін утрымліваюцца біятаксіны, якія не гінуць нават пры кулінарнай апрацоўцы. Ужыванне іх у страву небяспечнае.

*М. ДАШЭВІЧ, урач-інфекцыяніст Івацэвіцкай раённай бальніцы.*

ИЗ СЕМЕЙНОГО АЛЬБОМА

# Для дома, для семьи, для души...



*Так начиналась любовь...*
*Фото А. ГАНЧУКА.*

ЗНАЕТЕ ЛИ ВЫ, ЧТО...

## Седина в бороду — бес...

Наверное, среди ваших знакомых есть супружеские пары, у которых разница в возрасте ощутима. Но сегодня представляем вам людей "знакомых" всем, деятелей науки и искусства, которые были (или есть) значительно старше своих жен.

Василий Жуковский. Разница в возрасте — 38 лет. Двое детей.
Федор Достоевский. 25 лет. Двое детей.
Дмитрий Менделеев. Более 30 лет.
Александр Вертинский. 30 лет.
Сергей Лемешев. Более 20 лет.
Александр Солженицын. 26 лет.
Иван Пырьев. 40 лет.
Евгений Евтушенко. 34 года. Двое сыновей.

Если вы думаете, что только наши соотечественники составляют исключение, то глубоко ошибаетесь.

Лопе де Вега. Разница в возрасте с женой — 30 лет.
Имре Кальман. 30 лет. Трое детей.
Теодор Драйзер. 28 лет.
Пабло Пикассо. 40 лет.
Чарли Чаплин. 36 лет. Восемь детей.
Генри Фонда. 28 лет.
Ив Монтан. 40 лет.
Ален Делон. 36 лет.

ПОЛЕЗНЫЕ СОВЕТЫ

## Маленькие хитрости

**СВЕТЛЫЙ МЕХ**. Чтобы светлые меха дольше сохраняли свой цвет и не желтели, следует хранить их в специальных мешках из ярко-синей материи.

**КАК ПОМОЧЬ КНИГЕ**. Жирные пятна на страницах книг можно вывести раствором картофельного крахмала (1 столовая ложка на 1/2 стакана воды). Когда крахмал высохнет, его надо осторожно стереть мягкой тряпочкой.

**КАК ГЛАДИТЬ КРУЖЕВА**. Кружева и вышивку следует гладить только с изнанки, чтобы сохранить выпуклость рисунка и не испортить красоту изделия.

**СТИРКА**. Чтобы освежить краски ткани, добавьте в воду при последнем полоскании: для тканей черного цвета — соль, красного и голубого — уксус, розового — нашатырный спирт, желтого — процеженный отвар луковой шелухи. Соль поможет также сохранить цвет и блеск изделиям из натурального шелка. Для этого их достаточно прополоскать в соленой воде (50 г соли на 2 л воды).

ХОЗЯЙКЕ НА ЗАМЕТКУ

## Запасы на зиму

### Приправа острая из сладкого перца

Перец и чеснок пропустить через мясорубку, добавить мелко нашинкованную зелень петрушки и укропа, все тщательно перемешать, добавив острый томатный соус по вкусу. Такая приправа отлично сохраняется в холодильнике до нового урожая. На 300 граммов перца — 300 граммов чеснока, 50 граммов укропа, 200 граммов соуса.

### Перец соленый

Свежие перцы, промытые и очищенные от семян, плотно уложить в бочонок или эмалированную кастрюлю, перекладывая каждые 3-4 ряда перца ветками эстрагона, залить рассолом (700 граммов соли на 10 литров воды). Сверху положить деревянный круг, а на него — гнет с таким расчетом, чтобы перцы были полностью покрыты рассолом. Через 1-2 недели соленые перцы перенести в холодное место.

### Патиссоны консервированные

Приготовить рассол из расчета: на литр воды — 70 граммов соли, 10 миллилитров уксусной кислоты, мята, лавровый лист, перец, чеснок, зелень петрушки и укропа по вкусу. Вымытые патиссоны уложить в чистые стеклянные банки, залить рассолом, простерилизовать и закатать.

КАЛЕНДАРЬ САДОВОДА И ОГОРОДНИКА

## Что делать в эти дни?

Начавшая убывать Луна 16 июня и до 21 ч. 23 мин. 17 июня находится в очень продуктивном знаке Рыб. Полезны пересадки, подсадки корнеклубневых культур, поливы и подкормки всех растений — и "вершковых", и "корешковых". Сбор плодов не очень желателен, поскольку этот знак Зодиака "сырой", продукция быстро портится. Со сбором лучше подождать до 18 июня 19 ч. 20 мин.

УЛЫБНИТЕСЬ

— Доктор, мой муж серьезно болен. Что делать?

— Прежде всего нужно поставить диагноз. Разденьтесь и покажите, где у него болит.

